ТРАГЕДЫЯ 11 КРАСАВІКА:



ЧОРНАЯ КАМЕДЫЯ
СТАР. 4-5

ТУТ І ЦЯПЕР
WWW.SVABODABY.NET

НАШЫ ПАЛІТЫКІ
ЦІ НАВЕДВАЮЦЬ ЯНЫ ПАРНАСАЙТЫ
СТАР. 6,8



БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
12.04.12-18.04.12 г.

# ЯК РУСЫ ЛУКАШЭНКУ ПАДМАНУЎ

Адно з новых кадравых рашэнняў кіраўніка Беларусі здольна шакіраваць.




*Якую стабільнасць нам прынясуць новыя прызначэнцы?*

## ЗНАКАМІТАСЦЬ У ПЭЎНЫМ СЭНСЕ

10 красавіка Аляксандр Лукашэнка прызначыў на новыя пасады 11 чалавек. З гэтай "футбольнай каманды" амаль палова — "сілавікі: 4 — з Камітэта дзяржаўнай бяспекі, яшчэ 1 — з Міністэрства ўнутраных спраў. Імёны яшчэ пяці "кадраў, якія вырашаюць усё", больш-менш вядомы хіба што спецыялістам. І толькі адзін з новапрызначаных — знакамітасць (у пэўным сэнсе). Гэта Міхаіл Русы, які з пасады міністра сельскай гаспадаркі перамясціўся ў крэсла віцэ-прэм'ера.

Былы першы сакратар Стаўбцоўскага раённага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі ў 1994 годзе патрапіў у першы ўрад, які прызначаў Аляксандр Лукашэнка. Міхаіл Русы быў прызначаны міністрам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. На гэтым месцы ён затрымаўся на 7 гадоў.

Потым Русага перакінулі на сельскую гаспадарку. Там справы пайшлі горш. Праз два гады Лукашэнка звольніў Русага з фармулёўкай, якую варта працытаваць цалкам — «за неисполнение поручений главы государства об обеспечении полной и своевременной выплаты заработной платы работникам агропромышленного комплекса и погашении задолженности перед населением и сельскохозяйственными организациями за сданную сельскохозяйственную продукцию, а также за фальсификацию отчетных данных по этим вопросам».

> "Падчас работы там Русы — яшчэ адзін тутэйшы цуд! — атрымаў званне падпалкоўніка. Відаць, ацанілі яго поспехі ў "битве за урожай".

## КАЛІ КАДРАВЫЯ РЭСУРСЫ НАДТА СЦІПЛЫЯ

— Мало того, что не выполнили моё распоряжение, так ещё и обманули меня, — абураўся Лукашэнка ў 2003 годзе. — Прощения за обман президента не будет никому...

Тады, акрамя Міхаіла Русага, у адстаўку пайшлі прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі і яго намеснік Аляксандр Папкоў. Кіраўнік Беларусі абгрунтаваў сваё рашэнне тым, што няма падстаў спадзявацца на эфектыўнасць работы гэтага ўрада і ў будучыні.

Улічваючы гэта, шмат каму падалося, што Міхаіл Русы атрымаў "воўчы білет". Аднак неўзабаве ён зноў быў запатрабаваны, і ў 2004 годзе патрапіў у Палату прадстаўнікоў, дзе ўзначаліў аграрную камісію. Падчас работы там Русы — яшчэ адзін тутэйшы цуд! — атрымаў званне падпалкоўніка. Відаць, ацанілі яго поспехі ў "битве за урожай".

Кадравыя рэзервы Лукашэнкі надта сціплыя, таму часам здараюцца дзіўныя рэчы. У 2010-м Русы вярнуўся на тую ж самую пасаду, з якой яго звольнілі за "фальсіфікацыі". Ці можна ўявіць сабе такія рэчы ў дзяржаве, якая сябе паважае?!

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## ДА НАРМАЛЬНАГА МЯСА

**Аляксандр Лукашэнка даручыў наладзіць у Беларусі вытворчасць і перапрацоўку мармуровага мяса. Такую задачу ён паставіў сёння ў час рабочай паездкі па Гомельскай вобласці, сцвярджае БелаПАН.**

«Мармуроваму мясу быць. Мы наладзім асобную перапрацоўку, разам знойдзем рынкі рэалізацыі і будзем прадаваць», — прыводзіць яго словы дзяржаўнае агенцтва БелТА.

Лукашэнка адзначыў, што беларускія спецыялісты ўжо вывучаюць замежны вопыт у гэтай справе.

«Зараз мы купляем лінію — гэта нядорага для дзяржавы, усё па еўрапейскіх стандартах спакуем і будзем прадаваць. Сёння ў Расіі вялікі попыт на такую прадукцыю. Таму займацца гэтым будзем, у нас знікае вялізная колькасць угоддзяў», — падкрэсліў ён.

Лукашэнка даручыў віцэ-прэм'еру Міхаілу Русаму да канца года вывучыць гэтае пытанне і арганізаваць перапрацоўку мармуровага мяса.

«Трэба сваіх людзей прывучаць да нармальнага мяса і лішкі рэалізоўваць у Маскву», — сказаў ён.



# ШТО МОЖА ЗРАБІЦЬ КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА ДЛЯ БЕЛАРУСІ?

Апошнім часам кіраўнік краіны ледзь ці не штодзень звяртаецца да розных прадстаўнікоў каталіцкай царквы. Аб тым, да чаго гэта можа прывесці, разважалі суразмоўцы "Тут і цяпер".

**АЛЕСЬ АНЦІПЕНКА, ФІЛОСАФ:**

### "ГЭТА ДЭМАНСТРАЦЫЯ ГАТОЎНАСЦІ ДА ДЫЯЛОГА".

— Каталіцкая царква павінна прысутнічаць у Беларусі і несці слова Хрыстова. А што яна можа зрабіць для сённяшняй сітуацыі? Я думаю, што не варта перабольшваць ролю каталіцкага касцёла ва ўрэгуляванні канфлікту паміж беларускімі ўладамі і Еўрасаюзам. Пакуль што гаворка ідзе пра жаданне нашага кіраўніка спыніць канфрантацыю. Але што насамрэч стаіць за гэтымі словамі, зараз казаць вельмі цяжка, бо палітыка заўсёды ёсць будынінай у некалькі паверхаў, і пакуль што няясна, дзе мы знаходзімся. Толькі праз нейкі час стане зразумела, наколькі гэтыя інтэнцыі сапраўды палягаюць у тым, каб урэгуляваць наяўную канфліктную сітуацыю. У рэшце рэшт, мне падаецца, што апеляцыя да каталіцкага касцёла насамрэч залішняя, таму што ўмова, якую выставіў Захад для ўрэгулявання канфлікту, добра вядомая — гэта вызваленне палітзняволеных.

**ВІКТАР МІСЕВІЧ, ПРОБАШЧ БЯГОМЛЬСКАЙ ПАРАФІІ:**

### "ГЭТА ПАЛІТЫЧНАЕ ПЫТАННЕ".

— З боку майго сціплага гледзішча (я ж шараговы святар), не ў гэтым ёсць місія каталіцкага касцёла. Гэта палітычнае пытанне, а касцёл займаецца іншым. Акрамя духоўнай місіі, гэта могуць быць культурныя пытанні. І тут касцёл дзейнічае плённа. Вось нядаўна наш нунцый прапанаваў цікавы праект — зладзіць выставу карцін Шагала. Такія культурныя праекты яшчэ можна прасоўваць. Каталіцкія парафіі ладзяць спартовыя мерапрыемствы і за мяжой, і ў нас; арганізоўваюць розныя летнікі. А што тычыцца палітыкі, дык я нават не бачу неабходных інструментаў.

**ГАННА МАЦКЕВІЧ, ХАТНЯЯ ГАСПАДЫНЯ:**

### "ХОЧАЦЦА ПАЧУЦЬ З БОКУ КАСЦЁЛА ЗАКЛІК ДА ЎЛАДЫ ЖЫЦЬ ПА-БОСКУ".

— Вельмі хацелася б, каб касцёл не знайшоў магчымасці падтрымліваць жаданні першай асобы краіны. Любая царква павінна займацца непалітычнымі справамі, і ў любым выпадку — не абслугоўваннем яго загадаў. У той жа час хацелася б хоць ад касцёла пачуць нейкі заклік да ўлады жыць па боскіх законах. Бо тое, што робіцца ў Беларусі, не адпавядае запаветам Хрыста — ад паводзін міліцыянтаў у дачыненні да людзей да судоў, якія выносяць смяротныя прысуды. Маўчанне святароў, што праваслаўных, што каталіцкіх, аслабляе іх аўтарытэт і знішчае сэнс іх існавання.

**АЛЯКСАНДР КЛАСКОЎСКІ, ПАЛІТОЛАГ:**

### "НІ ВЯЛІКІ МАГІСТР, НІ ПАПА РЫМСКІ ЛУКАШЭНКУ НЕ ДАПАМОГУЦЬ".

— З аднаго боку, я думаю, гэтыя сустрэчы з прадстаўніком Мальтыйскага ордэна і з папскім нунцыем носяць у значнай ступені піяраўскі характар. То бок гэтых сваіх візаві Лукашэнка выкарыстоўвае дзеля таго, каб даслаць пасланне Еўропе, таму што



*Звычайна апелююць да Царквы, калі вельмі дрэнна*

Аляксандра Рыгоравіча ў выніку дыпламатычнай вайны каналаў камунікацый засталося няшмат. І святыя айцы тут якраз дарэчы. А другі складнік прагматычны. У 2009 годзе, калі пачыналася першая адліга ў адносінах з Еўропай, менавіта Лукашэнка, калі можна так сказаць, скарыстаў у пэўнай ступені Ватыкан дзеля свайго прарыву ў Еўропу. Ён тады, акрамя таго, што падарыў з Колем буквар пантыфіку, сустрэўся з Берлусконі і з вялікім магістрам таго ж Мальтыйскага ордэна. То бок сапраўды быў прарыў у Еўропу.

Наш кіраўнік скарыстоўвае Ватыкан і Мальтыйскі ордэн — па сутнасці, дзяржаўныя ўтварэнні, якія маюць рэальную палітычную вагу і маральны аўтарытэт. З іншага боку, яны не ўваходзяць у Еўрасаюз, не звязаны агульнымі рашэннямі наконт санкцый і ў пэўнай ступені сапраўды могуць адыгрываць ролю пасрэднікаў ці гарантаў у дыялогу, які завязваецца паміж Мінскам і Бруселем, бо шмат дроў тут наламана, існуе вялікі недавер, і такое пасрэдніцтва можа крыху дапамагчы. Менавіта крыху, бо галоўнае пытанне — гэта вызваленне палітвязняў, і пакуль яно не будзе вырашана, ні вялікі магістр, ні Папа Рымскі Лукашэнку не дапамогуць.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**АФІЦЫЙНА**

Убіць клін у адносіны паміж Беларуссю і Святым Прастолам не атрымаецца. Аб гэтым 10 красавіка заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з апостальскім нунцыем у Рэспубліцы Беларусь Клаўдыа Гуджароці, паведамілі БелТА ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.

*«Я сачу за сродкамі масавай інфармацыі як унутры Беларусі, так і за межамі нашай краіны. Сяму-таму хочацца ўбіць клін і ў нашы адносіны з Папам Рымскім. Павінен сказаць, што не атрымаецца. Мы ўзялі курс на супрацоўніцтва з каталіцкай царквой. Мы вельмі шмат зрабілі разам з вамі ва ўзаемаадносінах дзяржавы і каталіцкай царквы, — адзначыў Аляксандр Лукашэнка. — І ўсе тыя планы, якія мы намячалі, размаўляючы з Папам Рымскім, мы практычна рэалізавалі. Застаўся адзін крок. Ідзе падрыхтоўка пагаднення, і мы поўныя рашучасці яго рэалізаваць».*

*«Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што мы заўсёды разлічвалі на актыўную падтрымку і дапамогу каталіцкай царквы".*

# ЯК РУСЫ ЛУКАШЭНКУ ПАДМАНУЎ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

## НАШ ПАРАВОЗ ІЗНОЎ ЛЯЦІЦЬ ПА ВЯДОМЫМ МАРШРУЦЕ

Гэтым разам Русы запомніўся грамадскасці тым, што ў траўні 2011-га на пытанне пра сумны лёс нацыянальнай валюты адказаў наступнае: “Да не так сильно рубль белорусский и упал”. Што тычыцца непасрэдна аграрнай галіны, то тут па-ранейшаму няма чым захапляцца. Нават кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч пару месяцаў назад адзначыў, што эканоміка Міністэрства сельскай гаспадаркі не вытрымлівае ніякай крытыкі.

Здавалася б, Русаму трэба рыхтавацца да чарговай адстаўкі. Аднак… ён пайшоў на павышэнне! І гэта, між іншым, сведчыць пра тое, што прафесійныя і маральныя якасці — не тыя рэчы, якія бярэ пад увагу Лукашэнка, падбіраючы чальцоў сваёй каманды.

Новае прызначэнне Русага дэманструе ўзмацненне кансерватыўнага крыла ўлады. Хутчэй за ўсё, кіраўніцтва краіны збіраецца вяртацца да тых практык, якія прывялі да крызісу ў 2011 годзе. У выніку ўзмацняецца аграрнае лобі, якое прэтэндуе на танныя эмісійныя крэдыты. На парадку дня старыя лозунгі — “Планы пятилетки — в жизнь!”, “Намеченное Всебелорусским собранием должно быть выполнено!” — і праверaныя кадры. І наш паравоз ізноў ляціць наперад па вядомым маршруце — пад адхон.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# БЕЛАРУСЬ І ЗАХАД: ЯКІЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ?

**Кіраўніцтва краіны разлічвае на больш актыўную ролю каталіцкай царквы. Прынамсі, аб гэтым Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў на развітальнай сустрэчы з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Суверэннага Мальтыйскага ордэна Паўлем Фрыдрыхам фон Фурхерам.**




*Святы Прастол заўсёды за дыялог. Разумны*

## ЯК ТРЫВОГА — ДЫК ДА БОГА?

Улічваючы, што месяц таму ўсе паслы краін Еўрасаюза са скандалам пакінулі Беларусь у адказ на адкліканне беларускага прадстаўніка пры Еўрасаюзе і пасла ў Польшчы, а таксама ад’езд іх польскага калегі, якога “папрасіў” афіцыйны Мінск, відавочна, што прамы дыялог з Заходняй Еўропай наладзіць не ўдаецца. Незразумела толькі, чаму роля пасрэдніка адводзіцца менавіта каталіцкай царкве, прычым не ў першы раз.

Пра “больш актыўную абарону інтарэсаў Беларусі на Захадзе”, наўпрост ці ўскосна, вялася гаворка і падчас візіту кіраўніка беларускай дзяржавы ў Ватыкан у 2009 годзе, і летась на сустрэчы са старшынёй Папскай Рады па садзейнічанні хрысціянскаму адзінству Куртам Кохам, і літаральна днямі падчас сустрэчы з Апостальскім Нунцыем у Беларусі Клаўдыа Гуджароці. Зрэшты, насамрэч усё даволі празрыста: з праваслаўнай царквой пагадненне аб супрацоўніцтве ў беларускага ўрада ўжо даўно (амаль 10 год назад) падпісана, а вось рымска-каталіцкую царкву “падпісаць” пакуль што не ўдалося, хоць праект аналагічнага пагаднення гатоў. Дарэчы, у Беларусі, паводле афіцыйных падлікаў, каля 1,4 мільёна вернікаў (15% ад агульнай колькасці) каталікі, таму рымска-каталіцкая царква магла б стаць вылучным дадатковым рычагом уплыву як за межамі, так і ўнутры краіны. Іншая справа, што прадстаўнікі кіраўніцтва гэтай канфесіі далей за дыпламатычныя паклоны ў стасунках з беларускімі ўладамі не заходзяць.

> У Беларусі, паводле афіцыйных падлікаў, каля 1,4 мільёна вернікаў (15% ад агульнай колькасці) каталікі.

Цікава, як самі вернікі ставяцца да перспектывы зрабіць з каталіцкай царквы чарговага “пасрэдніка ў дыялогу з Захадам”?

Этнічны паляк Алесь Тамашэўскі не бачыць у гэтых захадах ніякіх перспектыў: “Аб чым вы гаворыце? “Супрацоўніцтва” беларускіх улад з каталіцкай царквой — гэта гульня ў адны вароты: вы, маўляў, там, у Еўропе, за нас папрасіце, а мы ў сябе як захочам, так і будзем абыходзіцца з каталіцкімі святарамі і вернікамі, хоць арыштоўваць проста на прыступках храма — мы ж суверэнныя і незалежныя. Карацей, нічога не атрымаецца”.

Не вераць у шчырасць і плённасць добрых намераў уладных структур і разнастайныя назіральнікі, а таксама незалежныя эксперты. Прыкладам, сустаршыня партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” Павел Севярынец мяркуе, што “зварот “праваслаўнага атэіста” па дапамогу да каталікоў вельмі сімптаматычны”, але “гэты шантаж не будзе мець эфекту”.

Тым часам актыўныя інтэрнэт-карыстальнікі на форумах і ў сацыяльных сетках прапаноўваюць новыя кандыдатуры, якія яшчэ можна прыцягнуць да вырашэння задачы “наладзім дыялог з ЕС”: Федэрацыю скаўтаў Еўропы, Асацыяцыю гайдаў, Міжнародны камітэт Чырвонага Крыжа, Ордэн масонаў, Грынпіс, ды што там — усе больш ці менш уплывовыя міжнародныя арганізацыі па алфавіце…

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**ДАСЛОЎНА**

**«Шчыра кажучы, мы разлічвалі на большае ў супрацоўніцтве з каталіцкай царквой. Мы лічым, што каталіцкая царква відавочна не дапрацоўвае ў наладжванні адносін Беларусі з Заходняй Еўропай, я нават не кажу ў цэлым аб Еўрапейскім саюзе — вядома хто там іграе першую скрыпку”**, — *адзначыў Аляксандр Лукашэнка.*

# 11 КРАСАВІКА: ТАКАЯ ЧОРНАЯ

“Што нас не знішчае, робіць нас больш моцнымі”. Гэтую фразу раз-пораз паўтарае мой суразмоўца. Ён сапраўды ледзь не загінуў у мінскім метро 11 красавіка 2011 года, і яму давялося стаць больш моцным.



*У Расіі тэракты здараюцца пастаянна…*

Нага, што матлялася на скурцы, амаль загаілася. У яго жыцці з'явілася дзяўчына, спраўдзіліся некаторыя яго мары. Акрамя адной: ён, як і ўсе, хто пацярпеў у час выбуху, марыць хутчэй забыць гэты кашмар.

## ГЕРОЙ

Аляксандр Александрыя пакуль што пражыў на свеце 21 год. Апошні — праіснаваў. Тэракт у мінскім метро закончыўся для яго адкрытым пераломам галёнкі ў двух месцах і кардынальнымі зменамі ў жыцці. Пасля аперацыі нага стала больш кароткай на 9 сантыметраў. Цяпер Саша носіць спецыяльную металічную прыладу, якая рассоўвае касцявую тканку, каб вырастала новая. Да канца лета ён плануе пачаць вучыцца хадзіць наноў.

Зараз здымае кватэру ў сталічных Шабанах.

З ім жыве дзяўчына Каця і шэры трус.

З бацькамі цёплых адносін не падтрымлівае.

Гасцей сустракае з радаснай усмешкай.

Пра сваё жыццё пасля тэракта гаворыць з упартым аптымізмам.

## ПРОЩЕ ЗАБЫТЬ

«Такие моменты помнить трудно, да и ни к чему это. Прошёл год, и большую его часть я провёл в больнице. Слава Богу, я сейчас чувствую себя легче и стараюсь не загружать себя тем, кто совершил взрыв, что произошло, потому что и так всё понятно.

После теракта я думал, что такой кипеш будет длиться ещё долго… В первое время вздрагивал при каждом стуке двери - все казалось, что опять взрывы.

А тут бац — и всё спокойно у нас стало. И можно без страха ездить в метро, потому что Коновалова расстреляли. Да, люди забывают, но близкие не забывают, я не забываю… У меня вообще такое ощущение, что это было вчера».

## В ДЕНЬ ТЕРАКТА

«До взрыва я год не знал, что мне делать. Из Академии искусств меня отчислили, и я нашёл работу на СТВ, был очень счастлив. Работал инженером видеомонтажа. Получил первую зарплату 9 апреля, а через два дня случилась беда.

11 апреля до шести вечера был чудесный день. Прекрасная погода. Я получил первую зарплату, и мы с другом гуляли весь день, в кино сходили, в кафе. По парку Горького немного прошлись. Потом на площади Победы кофе взяли и батончик. Бабуля такая там сумасшедшая была, извинялась постоянно…

Я говорю своему другу: «Да пошли уже!» — и мы спустились в метро. Я вообще не должен был выходить на Октябрьской — мне ехать на Институт культуры, но вышел, чтобы пропустить друга вперёд, хотел с ним на перроне попрощаться. Это был третий вагон, метров 15 от скамейки.

Я вспоминаю, снова вижу картинку как будто бы изнутри. Помню момент перед взрывом: как взглянул на друга, как ступал, выходя из вагона, на свою ногу. Такие кадры вспоминаются как в ускоренной промотке. Я всё время думал, что не «вырубался», но потом понял, что потерял сознание. Первое, что помню после взрыва: очень мало людей. Женщина рядом лежала — жесть полная. Она еще пыталась по телефону позвонить. Я сам думаю: надо встать, разобраться. Смотрю — куча крови и нога в джинсах углом лежит. А еще несколько минут назад я гулял по парку… Друг поднял меня и понёс к эскалатору».

## ЧТО ПРОИЗОШЛО?

«В первые месяцы, когда боль была постоянная, и уколы, и операции, очень много размышлял: почему парень, который просто гулял, оказался на больничной койке? Я ведь никому ничего не сделал!.. Очень долго думал: может, я виноват, может, это моя судьба, может, работа у меня не такая… Книжек кучу перечитал. Потом только понял, что я здесь не при чём. То, что там оказался, — это случайность.

И я размышлял, что это за бомба, из чего она была сделана, кто привёз в страну взрывчатое вещество. Пришёл к выводу, что такое устройство не могли сделать вне лабораторных условий. А по версии суда, они «сварили» её в кастрюльке. Это детский сад!

Ну хорошо: посторонние люди сидят у телека, они будут смотреть и верить. Но не мне говорить это по телевизору! Мной злостно манипулируют, объясняя, что какие-то люди из ненависти к другим людям и для дестабилизации обстановки в стране совершили теракт. Возьмём теракты в Лондоне, Мадриде, Нью-Йорке. Там, по крайней мере, государство проворачивает это похитрее, очень хорошо маскирует.

А в такой стране, где всё спокойно… Да я приехал в Минск учиться из Житомира, потому что здесь всё спокойно!»

## ПОКАЗАТЕЛЬНЫЙ СЛУЧАЙ

«Такой случай как никакой другой показывает отношение всех ко всему и к власти. Любая зацепка в разговоре на эту тему снимает с людей маски. И что это за страна вообще, и что это за политика?! Зачем это делать с людьми в каких-то непонятных целях?»

## ПРАВОСУДИЕ

«Куча камер вокруг, судья, террористы, Лукашенко… (на этом слове Саша прикрыл рот ладонью — Т.Б.).

Что это за закон такой, что я не могу в суде встать и сказать: «Вот вы не правы и вы не правы» (ну, мягко говоря)?! И никто не защитит мои интересы в этой стране. А у меня тяжёлая травма. И что мне делать? И кто виноват? И этого всего могло и не быть, если бы на 5 минут раньше…».

## НЕ ВЕРЮ

«Понятно, что в суде было много всяких недоговорок, выдумок. Сколько раз перечитывал новости и поражался! Это будоражит моё сознание.

Версии суда я не верю. Хотя бы потому, что заранее было известно, что 11 апреля будет что-то происходить. Мно-

# КАМЕДЫЯ

гие люди об этом говорят, те же таксисты. К примеру, что машины скорой помощи 11 апреля стояли за полчаса до взрыва во всех дворах. Было ни проехать, ни пропихнуться. Я это не один раз слышал. Я уже молчу, что 8 апреля вышел закон об обезвреживании всех взрывных веществ в округе».

## КАЗНЬ

«Коновалов и Ковалёв причастны каким-то образом, ведь не может так быть, что покупали апельсины в магазине и попали за решётку. Кто их там заказал, не знаю, но кто-то ещё причастен к такому ужасному мероприятию.

Но я согласен, что к ним следовало применить высшую меру наказания за их деяния… Моё мнение категорично. Их же казнили не за теракт, а за сумму всего — 30 взрывов, куча пострадавших…

Всё! Уже всё! И года не прошло, как их расстреляли. Уже никто ничего не узнает никогда. А кто будет интересоваться? Люди, потерявшие своих родственников, слишком подавлены. Да что там копать, и так всё ясно…

Я готов к тому, чтобы стереть эту часть жизни, стереть своё прошлое. Я так стараюсь смотреть: Саша жил, Саша год в больнице, и Саша опять начнёт жить потом, когда выздоровеет. Я буду дальше шагать и радоваться. Я раньше был очень живым человеком. То, что я год не могу встать и пойти, невыносимое испытание для меня. Я танцевал сутками. Всё, что я делал, делал в бешеном движении».

## ЖИЗНЬ ПОСЛЕ

«Ну да, жизнь теперь у меня отстой: я никуда не хожу, не учусь, не работаю. Если б один был, так совсем загнулся бы. А так девушка не даёт. Её зовут Катя, мы познакомились уже после взрыва. Я людям не рассказываю, что со мной случилось, ведь за пару минут всего не объяснишь. Говорю просто, что упал. Ну упал, и ладно. Сразу весь разговор отрезается, и мне легче. А Катя уже потом сама узнала откуда-то, позвонила по видеосвязи, заволновалась. Теперь вместе живём.

Я дома стараюсь работать. До взрыва занимался рекламой, игровыми короткометражками, монтажом, звукорежиссурой, аранжировками. Сейчас всё своё время посвящаю монтажу, у меня тут интернет хороший, и заказы есть».

## ЧЁРНАЯ КОМЕДИЯ

«Так смешно получилось... Это такая комедия, чёрная комедия. Папа в Украине увидел меня по телевизору (до этого мы полгода не общались) и после взрыва позвонил на мой день рождения, 19 апреля. Позвонил через интернет-сайт, с которого можно 2 минуты говорить бесплатно. И я лежу, мне кровь переливают, люди с камерами ломятся. И звонок: «Саша, шу-шу-шу, я с бесплатного сайта… Как дела?» Всё оборвалось. Время закончилось. Я со своей стороны вообще ничего не понял.

Не хотел бы, чтобы мои дети чувствовали то, что я чувствовал… Мама связала чехольчик на ногу, чтобы зимой не мёрзла. Это всё, что она сделала.

Ко мне друзья часто приходят, поддерживают. У меня очень хорошие друзья».

## ЗАРПЛАТА ЗА НОГУ

«Первая выплата, которую мне дало государство, была мизерная — 3 миллиона. Вот такая моя «зарплата» за почти оторванную ногу. И плюс пенсия по инвалидности. Слава Богу, её хоть подняли немного. Этой зимой за то, что я стал инвалидом, мне сделали ещё одну небольшую выплату в размере 10 миллионов рублей.

Основные деньги (я положил их на счёт под проценты), на которые я до сих пор существую, мне дали благотворительные фонды. Сейчас для разработки ноги мне нужны специальный аппарат и электростимулятор. Красный Крест обещает помочь.

Короче, как-то не чувствуется помощь, но радуемся тому, что есть. Ведь до всего этого в финансовом плане я жил достаточно скверно. И много чего у меня не получалось в жизни, потому что не было средств. А сейчас получается. К примеру, есть место, где я могу жить и работать".

## БУДУЩЕЕ

"Самое главное, чего я хочу, — это выздороветь и уехать в другую страну обучаться искусству. Возможно, в Германию или Англию. Там киношкола хорошая, у них она поддерживается. Не то, что у нас, когда актёры спиваются в квартирках с тараканами. Есть желание посмотреть, как на Западе живут.

Я хочу себе более перспективное будущее. Здесь моё обучение и работа по специальности закончились взрывом. И моё мнение об этой стране изменилось…».

**ТАЦЦЯНА БУБЛІКАВА**



*Ці правільна б'ем ворага?*

# МОЖНА І БЕЗ РЭФЕРЭНДУМУ

Былы Генпракурор распавёў Еўрарадыё, ці магчыма было прызначыць іншы прысуд абвінавачаным у тэракце.

**Еўрарадыё: Як асабіста вы ставіцеся да смяротнага пакарання?**

**Рыгор Васілевіч:** Маё стаўленне вельмі складанае. Нейкага пэўнага меркавання ў мяне не склалася. Бо ёсць такія злачынствы, забойствы, якім няма апраўдання. Калі гіне дзіця – бацькі пакутуюць, можна зразумець пачуцці гэтых людзей. З іншага боку, ёсць стандарты, якія складаюцца ў межах Еўропы. І краіны, якія знаходзяцца ў Еўрасаюзе, у Савеце Еўропы прыйшлі да высновы, што смяротнае пакаранне неабходна адмяніць. Усе краіны Савета Еўропы падпісалі адпаведную Канвенцыю. Адмена смяротнага пакарання – пытанне вырашанае. Таму, можна зыходзіць з такога фармальнага юрыдычнага аспекту: калі Рэспубліка Беларусь імкнецца ўступіць у Савет Еўропы, то яна абавязаная будзе прыняць адпаведнае рашэнне.

**Еўрарадыё: Вы сказалі, што пытанне наконт смяротнага пакарання на рэферэндуме 1996 года насіла кансультацыйны характар. І пры адпаведным жаданні ўлады, яго можна было адмяніць насуперак выказванням грамадзян. А нам зараз кажуць, што без новага рэферэндуму гэта адмена немагчымая...**

**Рыгор Васілевіч:** З пазіцыі фармальна-юрыдычнай, безумоўна, гэтае пытанне можа быць вырашанае і без рэферэндуму. Рашэнне таго рэферэндуму насіла кансультацыйны характар і, у прынцыпе, можна вырашыць інакш. Але і кіраўнік дзяржавы, і парламент – яны прадстаўляюць народ. І меркаванне грамадзян для іх мае важнае значэнне, якое ўплывае на прыняцце імі рашэнняў. Іх можна зразумець – 80% прагаласавала!

**Еўрарадыё: Дэпутат парламента выказаў меркаванне, што калі б на нас у гэтым пытанні так не ціснуў Захад, то мараторый на смяротнае пакаранне ў нас мог быць уведзены яшчэ некалькі гадоў таму. Гэта насамрэч так, на вашу думку?**

**Рыгор Васілевіч:** Мой каментарый будзе такі. Я ўжо сказаў, што Канстытуцыя дазваляе вырашыць гэта пытанне і без рэферэндуму – гэта фармальна-юрыдычны аспект. І ў той жа час, ёсць уплыў рэферэндуму на прыняцце такога рашэння.

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# ЦІ НАВЕДВАЮЦЬ НАШЫ ПАЛІТЫКІ ПАРНАСАЙТЫ?

**Нядаўна ў шэрагу апошніх падзей у стужцы сацыяльнай сеткі "Фэйсбук" з'явілася паведамленне пра тое, што палітык Рыгор Кастусёў прачытаў артыкул пра… гумавыя лялькі. Побач з паведамленнем красавалася распранутая дзяўчына з голай попкай…**

Літаральна ў гэты ж дзень на сайце "Беларускі партызан" з'явілася заметка "Григорий Костусёв любит погорячее": маўляў, Кастусёў любіць наведваць сайты для моладзі і чытае артыкулы пра тое, як агаліць цела, а затым і душу.

**"Тут і цяпер"** распытала некаторых апазіцыйных палітыкаў аб тым, навошта ім старонка ў сацыяльных сетках і ці зазіраюць яны на парнасайты.

## АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА СЯБРУЕ З СУПРАЦОЎНІКАМІ БТ

Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі робіць запісы на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" амаль кожны дзень, а то і некалькі разоў на дзень. Кожную раніцу пасля традыцыйнай прабежкі Анатоль Уладзіміравіч паведамляе не толькі пра свой настрой і надвор'е (хаця ранішнія "прывітанні" ад Лябедзькі — гэта, можна сказаць, ужо традыцыя).

Па запісах старшыні АГП можна прасачыць, з кім ён сустракаўся, дзе быў, пра што размаўляў. Палітык вельмі аператыўна адгукаецца амаль што на ўсе падзеі. Ён сцвярджае, што "фэйсбучнае жыццё" ў яго шмат часу не забірае.

*"Галоўнае, каб было пра што пісаць і каб было жаданне гэта рабіць,* — гаворыць Анатоль Уладзіміравіч. — *Вось днямі прыйшоў я ў падатковую, паслухаў іх і, пакуль яны гаварылі, напісаў на сваёй старонцы пару радкоў з нагоды. Трэба проста больш эфектыўна распараджацца тым часам, які маеш: звычайна гадзіны нібы прасочваюцца паміж пальцаў. А ў тым, каб быць пастаянна на сувязі, мне здаецца, ёсць сэнс. Да таго ж заўсёды ёсць зваротная сувязь. І потым, часам бывае так, што трэба тэрмінова з кімсьці параіцца. Вось у мяне быў выпадак: я збіраўся сустрэцца з еўракамісарам Фюле, напісаў пра гэта на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" і пацікавіўся ў сяброў, аб чым важна ў яго запытацца. І людзі адрэагавалі. У выніку, я прыходжу на сустрэчу і бачу, што Фюле з планшэта чытае маю старонку. І свой выступ ён пачаў з рэакцыі на тое, што там напісана".*

Ёсць меркаванне, што за сацыяльнымі сеткамі пільна назіраюць і супрацоўнікі розных беларускіх спецслужбаў — маўляў, некаторым заробак плацяць за тое, што яны пішуць у каментарах усялякія гадасці або проста ўважліва адсочваюць усе запісы і потым выдаюць "аператыўныя аналітычныя справаздачы".

*"Была скандальная сітуацыя, калі адна дзяўчына з маіх віртуальных сяброў на самай справе аказалася зусім не той, за каго сябе выдавала,* — распавядае Лябедзька. — *Але яе вельмі хутка вылічылі. Цяпер мяне нават папярэджваюць, што ёсць такія персанажы, якія просяцца ў сябры з пэўнай мэтай. Але я ў "Фэйсбуку" сябрую практычна з усімі, не звяртаючы ўвагу на палітычныя перакананні. Напрыклад, у мяне ў сябрах журналіст Белтэлерадыёкампаніі Павел Тухто — ён актыўна спрабуе задаваць пытанні, выводзіць на эмоцыі, але я сам кантралюю сітуацыю і гляджу, хоча ён падыскутаваць або проста "пасабачыцца". Мне, дарэчы, цікавыя не толькі тыя людзі, якія падзяляюць мае погляды. Вельмі важна рэакцыя і процілеглага боку".*




*І апазіцыйным палітыкам нічога не чужое*

А вось сайты з сумніўным зместам Анатоль Лябедзька імкнецца абмінаць.

*"Я наведваю толькі палітычныя сайты і сайты навін,* — кажа палітык. — *Мне гэтага абсалютна хапае. Па парнасайтах не хаджу — у мяне ў гэтым сэнсе ўсё добра".*

## АЛЕСЬ ЛАГВІНЕЦ АДЫЁЗНЫХ АСОБ НЕ "ФРЭНДЗІЦЬ"

Саветнік старшыні Руху "За свабоду" Аляксандра Мілінкевіча Алесь Лагвінец таксама актыўны карыстальнік сацыяльных сетак. Яго старонка пастаянна абнаўляецца — тут і фотаздымкі, і каментары, і меркаванні.

*"Старонка ў сацыяльнай сетцы — гэта як сродак камунікацыі,* — тлумачыць палітолаг. — *На маю думку, ад яе больш карысці, чым мінусаў. Гэта магчымасць інфармаваць грамадскасць пра тое, аб чым думаеш.*

*Колькі часу займае "Фэйсбук"? Не ведаю дакладна — магчыма, гадзіну-паўтары ў дзень. Але на "Фэйсбук" я заходжу яшчэ і для таго, каб паглядзець навіны. Часам стужка сацыяльнай сеткі дазваляе даведацца пра нейкія падзеі хутчэй, чым пра іх паведамяць традыцыйныя сродкі масавай інфармацыі".*

Пра выпадак з Кастусёвым Лагвінец кажа так: *"Парог публічнасці палітыкаў заніжаны, таму варта чакаць, што могуць быць і адмоўныя каментары, і, магчыма, больш будзе абмяркоўвацца прыватнае жыццё, учынкі. Да гэтага трэба быць падрыхтаваным. Цяпер інфармацыі вельмі шмат, і наслядзіць можна значна лягчэй, чым у тыя часы, калі не было ні мабільных тэлефонаў, ні электроннай пошты, ні сацыяльных сетак".*

У віртуале Алесь Лагвінец сябруе толькі з тымі, чые погляды больш-менш падзяляе.

*"Стараюся не далучаць да сваіх сяброў адыёзных асоб,* — гаворыць ён. — *Напачатку я спрабаваў сам шукаць тых людзей, якія мне цікавыя, а зараз толькі адказваю на прапанову сябраваць".*

## РЫГОР КАСТУСЁЎ ДЗЯКУЕ ЗА ПІЯР

Экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010 года — намеснік старшыні Партыі БНФ — пра выпадак з гумавымі лялькамі распавядае з усмешкай. І сцвярджае, што парнасайты яго не цікавяць.

*"Трапіў на спасылку нейкую — загаловак быў пра душу і цела — і перайшоў туды, можна сказаць, выпадкова, мяркуючы, што траплю на нейкі разумны псіхалагічны роздум, а там замест тэксту пра душу — старонка з голымі дзяўчатамі,* — шчыра прызнаецца палітык. — *Ну і ў стужцы "Фэйсбука" зафіксавалася, што я быццам бы прачытаў гэты артыкул. Але гэта быў не парнасайт".*

На папрокі ў тым, што, маўляў, ніякіх запісаў на сваёй старонцы Кастусёў не вядзе, каментараў не пакідае, палітык адказвае так:

*Заканчэнне на стар. 8*

# ЯК МАГІЛЁЎСКІЯ ЎЛАДЫ КАНТАКТУЮЦЬ З ГРАМАДСКАСЦЮ

**Днямі намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама сп. Мялешка на адмысловай нарадзе абвясціў пра гатоўнасць мясцовай улады да дзелавых кантактаў і нават супрацы па пэўных пытаннях (у прыватнасці ў вырашэнні сацыяльных праблем) з недзяржаўнымі грамадскімі арганізацыямі.**



*Сяброўства не атрымліваецца*

## ЯШЧЭ З САВЕЦКІХ ЧАСОЎ

Навіну шырока растыражавалі рэгіянальныя дзяржаўныя СМІ, аднак ніякага ўзрушэння ў тых самых недзяржаўных арганізацыях навіна не выклікала. Ніхто з іх прадстаўнікоў у пазначанай нарадзе не ўдзельнічаў, ніхто з іх не ўваходзіць і ў так званы Савет грамадскіх арганізацый пры аблвыканкаме, дзе тон задаюць "Белая Русь", Савет федэрацыі прафсаюзаў, БРСМ, Савет ветэранаў і іншыя праўладныя арганізацыі, якія практычна не зведалі змен у стылі і ідэалогіі працы з савецкіх часоў.

Сёння, менш як праз тыдзень пасля смелай заявы сп. Мялешкі, многія з грамадскіх актывістаў тоўпіліся на прыступках і ў калідоры суда Ленінскага раёна Магілёва, дзе практычна адначасова праходзілі адміністратыўныя суды менавіта над іх паплечнікамі. Цікавая ілюстрацыя да намераў аблвыканкама аб супрацы, ці не так?

Судоў было тры: свае звальненні абскарджвалі вядомыя ў горадзе актывісты недзяржаўных прафсаюзаў (РЭП і Свабодны прафсаюз) Аляксей Паўлоўскі і Мікалай Расюк. Трэцім па ліку судзілі грамадскага распаўсюджвальніка недзяржаўнай прэсы і актывіста грамадскага руху БНФ Сяргея Нігаціна. Аляксею Паўлоўскаму ўдалося абвергнуць прычыну свайго звальнення, усклаўшы за гэта віну (што і ёсць праўдай) на адміністрацыю будаўнічай арганізацыі "Прамжылбуд", скасаваўшы з яе 12 мільёнаў рублёў на пакрыццё вымушанага прагулу. На аднаўленне на працы гэта, аднак, не паўплывала. Суд над Мікалаем Расюком, які таксама абскарджвае прычыну свайго звальнення з будаўнічай фірмы "Інвест-сістэм", перанесены на больш позні перыяд, калі і адказчык, і ісцец збяруць у падтрымку сваіх пазіцый больш дакладныя матэрыялы. Аднак, па меркаванні Мікалая Расюка і яго прадстаўніка Юрыя Новікава, прысуд можна лёгка прадказаць — магчыма, што прычына звальнення будзе зменена на больш сумленную (цяпер лічыцца, што Мікалай Расюк звольніўся па сваёй просьбе, але заяву аб гэтым ён нікому не падаваў), але на працу адноўлены не будзе ўжо толькі таму, што "Інвест-сістэм" перастала існаваць. А той арганізацыі — упраўленню будаўніцтва гарвыканкама — "будаўнікі-электрыкі не патрэбны", як паведамілі адтуль Мікалаю Расюку. Гэта няважна, што чалавеку засталося ўсяго 3 гады да пенсіі і што такіх электрыкаў яшчэ пашукаць трэба, — тут важна якраз тое (і гэта добра разумее грамадскі сектар Магілёва), што сп. Расюк вядомы ў горадзе як актыўны абаронца правоў рабочых, у тым ліку сацыяльных правоў, пра якія якраз і ішла гаворка на тым аблвыканкамаўскім пасяджэнні. Трэці падсудны, Сяргей Нігацін, атрымаў 3 млн штрафу за адсутнасць пры ім дамовы на распаўсюджванне друкаванай прадукцыі ад рэдакцый тых самых недзяржаўных газет, якія, дарэчы і самі незарэгістраваны (што законам дазволена). Каму ж, як не суддзі, пра гэта не ведаць?!

## НЕ ПАКІДАЮЦЬ НАДЗЕІ

І ўсё ж такі грамадскія лідары Магілёва не пакідаюць надзеі на змену палітыкі ў адносінах да іх з боку мясцовай улады пры тым, што і не надта ў гэта вераць. Вось некалькі выказванняў на гэты конт.

**АЛЯКСАНДР СІЛКОЎ, РУХ "ЗА СВАБОДУ":**

— Хочацца верыць у добрыя намеры ўлады, тым больш што досыць нармальныя дзелавыя адносіны з ёю ў нас былі да 19 снежня 2010 года. Потым усё змянілася: у гарвыканкам, які да нас бліжэйшы, чым аблвыканкам, нас перасталі нават пускаць. А да таго мы мелі з горадам супольныя праграмы па ўратаванні нашых "хрушчовак", што знаходзяцца ў занядбаным стане. Нам удалося прыцягнуць да вырашэння гэтых праблем замежныя інвестыцыі, іх дапамогу ў тэхналагічным і праектным плане. Цяпер усё спынілася, і зусім не па нашай віне. Не пакідаем мы і сваю ініцыятыву па стварэнні ў Магілёве грамадскага магістрата як праваобраза будучых свабодных выбараў і самакіравання. Аднак не ад нас залежыць, ці будзе што рэалізавана на ўзроўні ўлад. Хочацца верыць, што прыхільныя словы на адрас грамадскіх ініцыятыў і пазадзяржаўных арганізацый сп. Мялешка сказаў не проста так.

**ІГАР БАРЫСАЎ, ЛІДАР АБЛАСНОЙ АРГАНІЗАЦЫІ БСДП (ГРАМАДА):**

— Калі яны сапраўды зацікаўлены ў кантактах з грамадскасцю, то няхай бы і запрасілі на якое адпаведнае пасяджэнне. Шчыра кажучы, гэтая грамадскасць ужо 18 год спрабуе ісці на кантакт, а яе ўпарта ігнаруюць. Ды нават і знішчаюць, бо з пачатку 90-х у нас мо больш як напалову зменшылася колькасць розных ініцыятыў і арганізацый. Сёння ў рэгіёне крыху больш за 120 розных суполак, у асноўным непалітычных. Большасць з іх нефармальныя, незарэгістраваныя, бо прайсці гэтую працэдуру ў нас, як вядома, складана. А вось для таго, каб прычапіцца да чаго-небудзь, уладзе дастаткова і адной хвіліны. Тут вам і міліцыя, і суды, а цяпер, як чуем, і "працоўныя калектывы" неўзабаве паставяць на месца гэтых недазволеных актывістаў. Я ў намер улады пакуль што не веру, аднак хацелася б, паколькі, паверце, калі ён будзе сапраўды шчырым, уся наша супольнасць адгукнецца на яго.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# ЦІ НАВЕДВАЮЦЬ НАШЫ ПАЛІТЫКІ ПАРНАСАЙТЫ?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*

*"Я карыстаюся "Фэйсбукам", у мяне там каля паўтары тысячы сяброў — гэта немалая колькасць. Яшчэ карыстаюся скайпам, электроннай поштай. І гэтыя рэчы выкарыстоўваю для сваёй працоўнай дзейнасці. А проста піярыцца ў сацыяльных сетках, як некаторыя — маўляў, пабыў за мяжой і выпіў гарбату за 40 долараў, мне нецікава. Такія падыходы я не прымаю, бо лічу гэта ненармальным".*

Рыгор Кастусёў, у адрозненне ад таго ж Лябедзькі, кожны дзень запісы ў "Фэйсбуку" не робіць. У лепшым выпадку — раз у 1-2 тыдні.

*"Калі ёсць думкі, вартыя абмеркавання, альбо тыя, якія сапраўды можна выносіць на шырокую грамадскасць, я пішу,* — гаворыць палітык. — *Напрыклад, апошні мой запіс быў такі: "На будынак школы ў г.п. Копысь Аршанскага р-на пасля рамонту не вернута шыльда, якая сведчыла, што школа носіць імя Янкі Купалы. Мясцовыя ўлады матывуюць гэта тым, што адсутнічаюць дакументы, якія пацвярджалі б прысваенне школе імя Я.Купалы. Школа насіла гэтае імя з 50-х гадоў мінулага стагоддзя, але амаль праз 60 год мясцовым уладам прыйшла думка адмяніць тое рашэнне, бо дакументы тых часоў не захаваліся або былі наўмысна знішчаны".*



*Ээээээх*

*Яшчэ праз старонку ў сацыяльнай сетцы я віншую з днём народзінаў сяброў і знаёмых, выказваюся пад постамі іншых сяброў на тую тэму, якая для мяне цікавая, і інфармацыяй, якой валодаю. Карацей кажучы, пішу пра тое, у чым разбіраюся.*

*Я вельмі не люблю, калі палітыкі займаюцца танным піярам, у тым ліку і ў сацыяльных сетках. І калі пад такім піярам стаіць 20—30 каментараў, я лічу, што людзям проста няма чаго рабіць, яны проста бавяць час. А ў мяне часу на такія забавы няма.*

*Ведаеце, пасля таго артыкула на "Партызане" я яшчэ раз (спецыяльна) адкрыў інфармацыю накшталт той, пра якую напісалі журналісты, — хацеў паглядзець на рэакцыю: мо яшчэ раз зрэагуюць, павядуцца на жаўцізну. Але не зрэагавалі. Я той артыкул не каменціраваў: калі захацелася ім так напісаць — ну, калі ласка. У любым выпадку дзякуй за піяр.*

*А што тычыцца парнасайтаў, дык я нармальны мужык, і ў сексуальным плане ні на што не скарджуся".*

**МІЖ ІНШЫМ**

Старонкі на "Фэйсбуку" таксама маюць лідар партыі "Справядлівы свет" Сяргей Калякін (праўда, ён там не робіць амаль што ніякіх запісаў) і генерал Валерый Фралоў (спачатку актыўнічаў у сацыяльных сетках, а цяпер таксама стаў рэдкім наведвальнікам "Фэйсбука").

Дзяржаўныя чыноўнікі — напрыклад, той жа міністр інфармацыі Алег Праляскоўкі, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей і памочніца кіраўніка дзяржавы Наталля Пяткевіч — старонак у "Фэйсбуку" не маюць. Хаця муж Пяткевіч — былы намеснік старшыні Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Мартыненка — зарэгістраваны ў "Фэйсбуку" і нават выкладвае там даволі цікавыя фотаздымкі.

А вось дэпутаты Палаты прадстаўнікоў часцей карыстаюцца "Аднакласнікамі", чым "Фэйсбукам". Праўда, пасля таго, як адно інтэрнэт-выданне змясціла матэрыял пра замежныя ваяжы чыноўнікаў, той жа Мікалай Самасейка выдаліў са сваёй старонкі ўсе фота, акрамя больш-менш афіцыйных.

**МАРЫНА МІТ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 12.04.12
Тыраж 299 экзэмпляраў